2) што найгеніяльнейшыя вучыцялі-палякі, асабліва пасыланыя да нас з этнаграфічнае Польшчы, ня могуць аб'яднаць, зьвязаць польскую школу з жыцьцём беларускае вёскі і беларускага дзіцяці;

3) што ўстанавіць абсалютна неабходную дзеля [памыснае культурна - узгадаваўчае працы сувязь школы з вёскай можа толькі вучыцель беларус, які сам узрос у беларускай сялянскай хаце і, здабыўшы культуру, найлепш можа перадаць яе ў зразуменай форме беларускаму дзіцяці, найлягчэй можа аказаць адпаведны ўплыў і на пераварэньне вясковага быту на падставах і ў духу сучаснае цывілізацыі.

Але аўтарка (— а з ёй і ўсё польскае грамадзянства!) наперад адкідае гэты адзіны выхад дзеля ратаваньня народнага школьніцтва ў Зах. Беларусі ад канчальнага банкруцтва. Пані Ромэр шукае паліятываў, засьцерагаючыся вельмі рашуча, што яна зусім ня мае на думцы ўвядзеньня выкладу ў беларускай мове. Пані Ромэр думае, што польскія вучыцялі знойдуць лек на ўсе хваробы школы, зьбіраючыся на канфэрэнцыі з „блізкімі да вёскі людзьмі". А якія будуць гэтыя „блізкія да вёскі людзі" — лёгка згадаць: такія-ж прысланыя з этнаграфічнае Польшчы паліцыянты, асаднікі, ксяндзы ды абшарнікі — гэтыя адны толькі найбольш тутэйшыя, бо пераважна патомкі беларускае шляхты і беларускага панства, але за тое далёкія ад вёскі сваімі соцыяльна-становымі паглядамі.

Такія канфэрэнцыі, пэўне-ж, ніякіх вынікаў не дадуць.

# Лёзанна і Жэнэва.

Увага ўсяга сьвету прыкавана сяголеньня да дзьвюх міжнародавых канфэрэнцыяў, якія адбываюцца адначасна ў местах Швайцарыі: Лёзаньне і Жэнэве. Першая канфэрэнцыя, агулам кажучы, мае мэтай ліквідацыю страшэнных пасьледзтваў мінулае вайны; другая стаўляе сабе задачай недапушчэньне ў будучыні новае вайны. У цэнтры праграмы апошняе канфэрэнцыі стаіць праблема агульнага разбраеньня, ці тачней: абмежаньня збраеньняў.

Ясна ўжо з сказанага, на колькі абедзьве праблемы і праграмы міжнародавых нарадаў у Лёзаньне і ў Жэнэве зьвязаны паміж сабой.

## Становішча Нямеччыны і Францыі.

Нямеччына ўсьцяж заяўляе, што больш плаціць адшкадаваньняў яна ня можа і ня будзе, пагражаючы ўжо ня толькі фінансавым банкруцтвам, але і паважнымі палітычнымі ўстрасеньнямі ў Эўропе. Але да банкруцтва Нямеччыны, якая, апроч яе „палітычных даўгоў", ці адшкадаваньняў, належных пераважна Францыі, зьяўляецца „прыватным" мільярдавым даўжніком Амэрыкі і Англіі, ні тая ні гэтая дапусьціць ня хочуць. Таму Нямеччына — пры яўным ужо падтрыманьні з боку абедзьвюх англа-саксонскіх дзяржаў — так сьмела рве свае палітычныя вэксалі, выданыя Францыі. З свайго боку Францыя, добра разумеючы ўсю безнадзейнасьць справы, выступае ў Лёзаньне пад лёзунгам паразуменьня з Нямеччынай. З свайго боку, нямецкі ўрад ідзе яшчэ далей і высоўвае ў Лёзаньне плян ня толькі гаспадарчага і палітычнага, але і ваеннага паразуменьня Нямеччыны з Францыяй.

## Кампрамісны плян.

Дзякуючы ўсяму гэтаму справа адшкадаваньняў магла быць адразу рашуча скранута з месца. І запраўды—на першых-жа нарадах дойшло да нейкага паразуменьня ўсіх „палітычных крэдытараў" Нямеччыны: усе яны згодна запрапанавалі Нямеччыне прыпыненьне на неабмежаны час сплаты адшкадаваньняў — пад варункам, каб яна за час гэтага „мараторыя" плаціла толькі працэнты... паводле „Пляну Юнга". А там, калі крызіс мінецца дый Нямеччына адбудуе сваю фінансава-эканамічную сілу, ізноў адбудзецца чарговы перагляд пляну сплаты адшкадаваньняў... Аднак гэты кампрамісны плян, які фактычна спыняе адшкадаваньні, але юрыдычна іх не касуе, здаецца, дагэтуль рашуча адкідаецца нямецкай дэлегацыяй.

## Прычына адкладу.

Па сутнасьці, гэты плян мае мэтай толькі адлажыць усю справу — да выбараў новага амэрыканскага прэзыдэнта, які будзе мець больш сілы і свабоды вырашыць цесна зьвязаную з справай адшкадаваньняў справу ваенных даўгоў былых саюзьнікаў — Амэрыцы. Прэзыдэнцкія выбары пачнуцца ў восені (першая стадыя) і закончацца вясной будучага году. Да таго часу і мае быць адкладзена канчальнае вырашэньне справы адшкадаваньняў.

## Варунак Амэрыкі.

Такім чынам Лёзанская канфэрэнцыя заявіла, што справа скасаваньня адшкадаваньняў, прынамся рашучага іх перагляду,— залежыць цалком ад Амэрыкі: як яна вырашыць справу ваенных даўгоў, так будзе вырашана справа адшкадаваньняў. Але Амэрыка, як ведама, дагэтуль рашуча адкідала ўсялякую сувязь справы яе ваенных пазыкаў саюзьнікам з справай адшкадаваньняў. Толькі ў сувязі з асабліва высуванай Амэрыкай справай агульнага разбраеньня (Эўропы!) сучасны прэз. Хувэр згадзіўся зрабіць уступку. Ён заявіў, як ведама, што, пакуль Эўропа мае грошы на ўсьцяж павялічаючыяся збраеньні, пагражаючыя новай вайнай, яна павінна мець грошы і на сплату сваіх даўгоў ад апошняе вайны. Дый у апошнія дні Хувэр пратэлефанаваў свайму міністру у Жэнэву, што толькі рашучы крок на шляху разбраеньня Эўропы можа даць ёй надзею на такі-ж крок з боку Амэрыкі ў справе ваенных даўгоў. Такім чынам, калі дзяржавы былае Антанты вяжуць справу адшкадаваньняў з справай ваенных даўгоў Амэрыцы, дык Амэрыка вяжа справу даўгоў былае антанты з яе разбраеньнем. З гэтага ясна, як цесна сплятаецца Лёзанна з Жэнэвай.

## Разбраеньне і „нямецкая небясьпека".

Але справа разбраеньня выклікае шмат рознага роду засьцярогаў з боку ўсіх дзяржаваў, асабліва-ж—з боку Францыі і зьвязаных з ёй ваеннымі саюзамі дзяржаваў, — з увагі на „нямецкую небясьпеку". Дык побач з праблемай разбраеньня высоўваецца дамаганьне папярэдняга павялічэньня бясьпечнасьці дый наагул — „палітычнага даверу" ў сьвеце, адсутнасьць якога зьяўляецца найважнейшай прычынай ня толькі ўсьцяж паглыбляючагася гаспадарчага крызісу, але і бясспыннага павялічаньня збраеньняў, тайнага ці яўнага, няўхільна пагражаючага новай вайной. І тутака першае месца займае так-званая „нямецкая небясьпека": нямецкія дамаганьні перагляду трактатаў і граніцаў.

Вось чаму — побач з уступкамі, якія дзяржавы б. Антанты згаджаюцца зрабіць Нямаччыне ў справе адшкадаваньняў, а Амэрыцы — ў справе разбраеньня, — яны высоўваюць дамаганьне, каб Нямеччына так

# У савецкай вёсцы.

Чэская часопісь „Полудневы Ліст" з 25 траўня с. г. друкуе цікаўнае апавяданьне аднаго чэха, уцёкшага з УССР, аб жыцьці савецкай вёскі на Украіне. Дзеля таго, што і ў Савецкай Беларусі жыцьцё вёскі такое самое, падаем некаторыя адрыўкі з гэтага апавяданьня ачывістага сьведкі.

## Калектыў дае работу, але не хлеб.

Калі пачалася пяцілетка, усе павінны былі йсьці ў калектывы. Самахоць ішло 20-40 пр., а большасьць прымушалася. Ахвотна ішлі тыя, якія ні зямлі ні іншага нічога ня мелі, не маглі нічога страціць, а, наадварот, яшчэ маглі нешта дарма атрымаць. На іх толькі савецкія ўлады апіраюцца.

Калектывы забралі для сябе найлепшую зямлю. Хто ня йшоў у калектывы, у таго зямлю адабралі, а яму далі горшую, раскіданую на кускі далёка адзін ад аднаго. Гэтакім способам людзей прымушалі іісьці ў калектывы.

Калі-б калектывы працавалі так, як аб іх гаворыцца, ня было-б галодных. Але тамака сяляне толькі сеюць, але зьбіраюць не для сябе... Падрахунак у калектывах робіцца ў канцы году. Лічацца працоўныя дні, колькі на каго прыдзецца. Найгоршае ёсьць тое, што няма насеньня дзеля пасеву. Калектыў наўперад павінен плаціць дзяржаве падатак на войска і на флёт, а што астаецца, тое для калектыву; гэты астатак зусім малы. Даніна вызначаецца паводле велічыні поля, а не паводле ўраджаю. Пасьля жніва яшчэ сяк так, а потым прыходзіцца галадаць. У гэтую вясну зрабілі рэвізыю і ўзялі ўсё, што гдзе яшчэ асталося. Галоўным чынам прыціскаюць тых, якія не ў калектывах. Калі-ж нават тыя ідуць у калектывы, дык іх усё роўна цераз год выкінуць, або пашлюць у Сыбір.

Цяпер калектывы вараць у агульных кухнях. Яду атрымліваюць толькі тыя, што працуюць, але ня іх сем'і. Калі хто мае жонку і 4 дзяцей, а працуе толькі ён адзін, дык малыя дзеці і жонка дастануць з калектыву толькі адну порцыю, на аднаго чалавека. А што маюць рабіць іншыя? А якая яда? Работнік дастане раніцай 40 дэкаграмаў хлеба і гарбату, на абед — боршч з зелянівы, ці капусты, а часам з бульбы, а на вячэру ізноў гарбата. Найгоршыя будуць тыя два месяцы, што прыходзяць (відаць: чэрвень і ліпень). Людзі абсалютна ня маюць што есьці. На Украіне будуць паміраць з голаду. Каб нават меў 500 рублёў у кішані, дык усё роўна нічога за іх ня купіш. Я баяўся гэтых двох месяцаў, дык і ўцёк, пакінуўшы там усё. Там такі голад, што калі я прышоў да суседа прасіць, ці ня мае ён чаго есьці, дык ён сказаў, што толькі што паслаў сваіх двое дзяцей жабраваць яду. Людзі сталі красьці адзін у аднаго ўсё, што можна зьесьці: курыцу, гусь і г. д. Такое цяпер жыцьцё ў калектывізаваных вёсках на Украіне.

## Г. П. У. сьцеражэ вёску.

У нашай вёсцы (каля Шэпетоўкі, у 80 вярстох ад польскай граніцы) было каля 250 сем'яў, усяго каля 1000 душ. На чале калектыву стаіць дырэктар. Раней калектывы самі выбіралі свайго старшыню, але цяпер ён назначаецца ўладай і няведама адкуль паходзіць. Ён для вёскі зусім чужы. Гэта звычайна або інвалід, або фабрычны работнік, які ня можа працаваць. Апрача дырэктара ў кожнай вёсцы ёсьць 3-4 камуністы, сябры Г. П. У., якіх прысылае партыя, а ім памагаюць камсамольцы (моладзь). Калі хочуць пакараць якога-небудзь селяніна, дык насылаюць на яго камсамольцаў. Гэтыя ўсё разаб'юць і параскідаюць, але ніхто вінных ня знойдзе. Г. П. У. ёсьць страх для калектыву. Калі не паслухаеш—пойдзеш у Сыбір. З нашай вёскі высланы ў Сыбір: Бабак, Грабоўскі, Белагус і Огрынец. Гэта было ў 1930 г. Тады ўзбурыліся жанчыны, узялі палкі і пабілі, як прадседацеляў, так і іх сэкрэтароў. Бура трывала 14 дзён. З жанчынамі нічога ня сталася. Як толькі бура сьціхла, прышла ў вёску Г. П. У. (міліцыя), забрала з вёскі замажнейшых людзей (кулакоў) і павязла ў Сыбір. Жанчыны ўсьцішыліся. Страх перад Г. П. У. нязьмерны. Да 1925 г. людзі маглі насіць пярсьцёнкі з золата, ці серабра, напр. шлюбныя; але ад тэй пары, калі хто не аддаў іх уладзе і будуць знойдзены, дык канфіскуюцца, а іх уласьнікі арыштоўваюцца і сядзяць без канца.

## Буржуазія ў калектыўных гаспадарках.

У калектывах чатыры платы, паводле катэгорыі. Найменшая катэгорыя ёсьць першая; гэта — земляробы, работнікі, пастухі быдла. Другая катэгорыя — гэта надзірацелі за пастухамі; трэцяя катэгорыя — рамесьнікі напр. кавалі; чацьвертую катэгорыю складаюць рахункаводы. Найлепей выходзіць дырэктар (прадседацель). Той не належыць да вёскі. Ён нічога ня робіць, але дастае найбольшую плату.

